«Народная Воля» в Facebook www.facebook.com/nv.online.info,
в Vkontakte www.vk.com/nvonlineinfo

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

**№ 47 (4607)**

25 чэрвеня 2021 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.




# Народная Воля

SOS!

## Уратуем «Народную Волю»!

Шаноўныя чытачы!
Паважаныя валанцёры!
Шчодрыя спонсары!
Усе, хто можа падтрымаць «Народную Волю»!

У чарговы раз звяртаемся да Вас, дарагія прыхільнікі свабоднага слова, з просьбай: **дапамажыце**! Толькі разам мы зможам уратаваць «Народную Волю»!

Нагадваем: падпісацца на PDF-версію газеты можна на сайце **belpressa.by**. Паколькі рэдакцыя ўжо каторы месяц не мае даходаў ад рэалізацыі выдання праз «Белпошту» і «Белсаюздрук», то мы рэальна зацікаўлены ў павелічэнні падпісчыкаў на PDF-версію.

Асобна звяртаемся да тых, хто мае магчымасць праявіць адрасную дабрачыннасць. Ёсць некалькі спосабаў пералічыць грашовыя сродкі (даём рэквізіты ў рускай транскрыпцыі) на рэдакцыйны рахунак.

**1.Через ЕРИП:**
**СМИ – Н (просто буква) – «Народная Воля» – Добровольные взносы.**
**2.Через БАНК:**
**ИЧУП «Народная Воля». 220030 г.Минск, ул.Энгельса, 34а**
**р/с BY08 PJCB 3012 0065 3510 0000 0933,**
**Код PJCBBY2X, ЦБУ 113 «Приорбанк» ОАО, г.Минск**
**УНП 100961759, ОКПО 37381505**

Загадзя выказваем шчырую ўдзячнасць!

**Вы — з «Народнай Воляй», «Народная Воля» — з Вамі!**

УЧОРА

# Еўрапейскі Саюз афіцыйна ўхваліў сектаральныя санкцыі супраць Беларусі




ЕС на сваім пасяджэнні афіцыйна ўхваліў сектаральныя санкцыі супраць Беларусі.

Рашэннем Савета ЕС забараняецца:

– продаж, пастаўка, перадача ці экспарт абсталявання, тэхналогій або праграмнага забеспячэння, прызначаных для маніторынгу або перахоплівання ўладамі інтэрнэту і тэлефоннай сувязі;

– прадаваць, пастаўляць або перадаваць уладам Беларусі прадметы двайнога прызначэння для выкарыстання ў ваенных мэтах;

Уводзяцца дадатковыя гандлёвыя абмежаванні ў дачыненні да нафтапрадуктаў, калійных угнаенняў і тавараў для вытворчасці тытунёвых вырабаў.

Абмежаванні закрануць таксама доступ да рынкаў капіталу Еўрасаюза для ўрада Беларусі і дзяржаўных фінансавых устаноў. Забараняецца страхаванне і перастрахаванне беларускага ўрада і беларускіх дзяржаўных органаў і агенцтваў.

Еўрапейскаму інвестыцыйнаму банку забаронена фінансаваць праекты ў дзяржаўным сектары, а дзяржавы-члены ЕС абавязаны абмежаваць удзел у Беларусі шматбаковых банкаў развіцця, членамі якіх яны з'яўляюцца.

Забараняецца купляць, прадаваць, прадастаўляць інвестыцыйныя паслугі і мець справу з каштоўнымі паперамі і інструментамі грашовага рынку з тэрмінам пагашэння больш за 90 дзён. Гэта тычыцца беларускіх фінансавых і крэдытных устаноў, дзе доля дзяржавы перавышае 50%. У спіс унесены «Беларусбанк», «Белінвестбанк» і «Белаграпрамбанк».

SOS!

# Дапамажыце нашым родным выйсці на волю!

## *Відэазварот сваякоў палітвязняў да беларускага народа і міжнароднай супольнасці*

**Аксана ХІНЕВІЧ, маці Анатоля Хіневіча:**

– Мой сын знаходзіцца за кратамі за тое, што імкнуўся зрабіць выбары ў Беларусі справядлівымі.

**Валерыя ЛАТОШ, жонка Міхаіла Юдзіна:**

– Мой муж асуджаны на чатыры гады пазбаўлення волі за тое, што хацеў дапамагчы незнаёмым людзям, якіх жорстка затрымлівалі. Мы маем дваіх непаўнагадовых дзяцей.

**Алеся ПРОХАРАВА, маці Віталя Прохарава:**

– Мой сын сустрэў сваё паўналецце ў калоніі.

**Валянціна АКТЫСТАВА, маці Віктара Актыстава:**

– Мой сын у мінулым годзе ўпершыню ўдзельнічаў у выбарах. Ён марыў стаць дыпламатам і працаваць у Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

**Ганна САНЧУК, жонка Аляксея Санчука:**

– Мой муж атрымаў шэсць гадоў за тое, што граў на барабане і іншых вучыў пляскаць у далоні.

**Людміла КЛАСКОЎСКАЯ, маці Вольгі Класкоўскай:**

– Маю дачку незаконна асудзілі на два гады пазбаўлення волі. Зараз знаходзіцца ў гомельскай калоніі №4. За адмову шыць форму сілавікам была змешчана, знаходзілася ў карцары роўна месяц. Вельмі хварэе. Адваката да яе не дапускаюць.

**Жанна СПАРЫШ, маці Сяргея Спарыша:**

– Мой сын хутка сустрэне за кратамі свой другі дзень нараджэння, а ён проста хацеў лепшай долі для нашай краіны.

**Вольга ОСІПАВА, жонка Ціхана Осіпава:**

– Мой муж атрымаў 11 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму за тое, што вырашыў ратаваць сваё жыццё і з'ехаў, калі па яго машыне стралялі.

**Марына СТАТКЕВІЧ, жонка Мікалая Статкевіча:**

– Мой муж – палітык і чалавек, які марыць і змагаецца за вольную Беларусь 30 гадоў. За час рэжыму ён правёў за кратамі ўжо 9 гадоў. Зараз яму пагражае 15-гадовае зняволенне.

**Вольга НАВІЦКАЯ, сястра Сяргея Коршуна:**

– Нашы родныя – палітычныя вязні Беларусі. Яны знаходзяцца за кратамі таму, што хацелі, каб Беларусь была вольнай і выйшлі змагацца за гэта.

**Вераніка БАРОЎСКАЯ, жонка Яўгена Бароўскага:**

– Многія з іх ужо шмат месяцаў за кратамі пад пастаянным ціскам. Іх судзяць закрытымі судамі, пасля чаго даюць вялікія тэрміны за рэчы, якіх яны не здзяйснялі.

**Святлана КАСАКОЎСКАЯ, маці Арцёма Касакоўскага:**

– Мы аб гэтым не гаворым, але кожны з нас хоць раз задумаўся: ці не атрымаем мы званок, які атрымала сям'я палітвязня Вітольда Ашурка, які загінуў пры спрэчных абставінах у беларускай турме.

**Крысціна СТЭФАНОВІЧ, жонка Расціслава Стэфановіча:**

– За кожным палітвязнем у Беларусі стаім мы – сем'і, мамы, жонкі, сёстры, дзеткі. Мы любім іх, чакаем. Разам з імі праходзім праз страх, боль. Разам з імі матаем суткі, месяцы, нават гады. Мы нясём гэты крыж разам.

**Святлана МАЛАШЭВІЧ, маці Соф'і Малашэвіч:**

– Мы звяртаемся да ўсёй Беларусі і просім: памятайце пра нашых родных, яны сядзяць за нашу свабоду. Памятайце і не апускайце рук. Мы не маем на гэта права.

**Дар'я ЛОСІК, жонка Ігара Лосіка:**

– Мы звяртаемся да еўрапейскай супольнасці і да ўсяго свету: чым больш пра палітвязняў у Беларусі гавораць, тым у большай яны бяспецы.

**Кацярына ЛЮДВІГ, жонка Яўгена Афнагеля:**

– Заклікайце да вызвалення ўсіх незаконна арыштаваных і асуджаных у Беларусі, пакуль апошні з нашых родных не апынецца дома.

**Анастасія МОНІЧ, жонка Сяргея Моніча:**

– Кожны новы дзень разваг і няўпэўненасці ў рашэннях – гэта яшчэ адзін дзень нашых родных у турмах і калоніях у жахлівых умовах.

**Ганна КАНАВАЛАВА, маці Антаніны Канавалай і цешча Сяргея Ярашэвіча:**

– Мы чакаем ад вас рэальных дзеянняў. Не верце ў прашэнні аб памілаванні – вязні амаль заўсёды іх пішуць пад прымусам.

**Вольга СЕВЯРЫНЕЦ, жонка Паўла Севярынца:**

– Мы хочам толькі справядлівасці і свабоды для Беларусі. Мы хочам вярнуць дахаты нашых родных. Мы верым: Беларусь будзе вольнай. Але ад усіх нас разам залежыць, як хутка.

***

Па стане на 23 чэрвеня 2021 года ў Беларусі ў месцах зняволення знаходзіліся 502 палітвязні, прызнаныя праваабарончай супольнасцю.

Але колькасць людзей, якія знаходзяцца за кратамі за сваё жаданне жыць у вольнай дэмакратычнай Беларусі, нашмат большая.

Мы перакананы, што ніводзін беларус не зрабіў нічога, што выходзіла б за межы неабходнай самаабароны альбо спынення больш цяжкага злачынства.

100 РАДКОЎ



Міхася СКОБЛЫ

# Аплявуха прэзідэнту

Хадзіць у народ – улюбёны занятак усіх прэзідэнтаў. І дэмакратычна абраных, і дыктатараў. Дастаткова адзін раз пабачыць, як з'яўляецца на публіцы, напрыклад, кіраўнік Паўночнай Карэі, каб пераканацца, што народная любоў можа выглядаць як заўгодна – ад бязмоўнага ступару да ліхаманкі ў абвостранай стадыі. А калі натоўп ліхаманіць, самая спрактыкаваная ахова дае маху.

Што і адбылося нядаўна ў Францыі, калі Эманюэлю Макрону захацелася народнай любові зблізку. Даверліва паціскаючы рукі выпадковым прахожым, ён ад аднаго з тэмпераментных суайчыннікаў атрымаў… аплявуху. Паражыў тое, што французы называюць «c'est la bérézina» – гэта значыць, поўны капец і канфуз. Спецслужбы тут жа высветлілі імя «тэрарыста». Ім аказаўся нейкі Дэміан Тарэл, прыхільнік «Mein Kampf» і Савецкага Саюза (ёсць, аказваецца, і такія). Суд, не доўга думаючы, даў яму чатыры месяцы турмы.

Чатыры месяцы – за аплявуху прэзідэнту ў жывым эфіры. Аддамо належнае Макрону – ён зрабіў выгляд, што не абразіўся і не кінуўся ў Елісейскі палац рабіць дурнап'янавыя прымочкі. Вытрымка проста напалеонаўская.

А цяпер з далёкай Францыі вернемся ў родненькую Беларусь і паглядзім, чым адрозніваецца французская і беларуская Феміды. Беларускай, як вядома, апошнім часам няма калі і вачэй развязаць – працуе, можна сказаць, без выхадных, прысуд выносіцца за прысудам. Нярэдка трапляюцца сярод іх і «за абразу прэзідэнта» (артыкул 358 Крымінальнага кодэкса). Прыгадаем некалькі спраў.

**Сяргей Бурак** з Мастоў проста перапосціў у мясцовым тэлеграм-канале вядомую ўсім з маленства карцінку – як рэпку вырывалі. Помніце – дзедка за рэпку, бабка за дзедку, унучка за бабку, сучка за ўнучку, мышка за сучку… Рэпа, праўда, была вусатая. І вось за тую рэпу Бурак атрымаў два гады. За бяскрыўдную карыкатуру, смеху вартую, як на добры розум, а не крымінальнага артыкула.

Яшчэ больш суровы прысуд чакаў магіляўчан **Вольгу Клімкову**, **Сяргея Скока** і **Максіма Сяргеенку** – за выробленыя з саломы лялькі, якія камусьці кагосьці нагадалі. А паколькі лялькі тыя яшчэ і віселі на пуцяправадах над аўтастрадай, то знойдзеных лялькаводаў суд (у закрытым рэжыме) звінаваціў па поўнай і прыгаварыў да трох з паловай гадоў нявολі (хоць максімальны тэрмін па арт.368 – тры гады). Чатыры месяцы за публічную аплявуху і тры з паловай гады за саламяную ляльку – адчуйце, як кажуць, розніцу.

Брэстчанін **Алег Асаула**, наглядзеўшыся ў інтэрнэце жорсткіх вулічных разгонаў мірных шэсцяў, не вытрымаў, набраў нумар 102 і выказаў усё, што думае пра грамадзяніна Лукашэнку. Коратка і ясна. Пяцісекундны званок абышоўся яму ў тры гады «хіміі». Язык мой – вораг мой? Але і маўчаць у той сітуацыі мог толькі нямы...

Падобных прыкладаў я мог бы прывесці дзясяткі. За шмат гадоў пакрыты пылам незапатрабаванасці артыкул 368 раптам спатрэбіўся і стаў прымяняцца налева і направа – за малюнкі і лялькі, за выказванні ў інтэрнэце і надпісы на плоце. Прысуды тыя, як можна меркаваць, выносяцца з маўклівай згоды героя малюнкаў і надпісаў, які сам, між іншым, з'яўляецца непадсудным. Гэта ў той жа Францыі на вышэйшую службовую асобу можна падаць у суд, у Беларусі заканадаўства такіх вольнасцяў не прадугледжвае. Вось і вымушаны людзі выказвацца ўсімі даступнымі спосабамі. Ад безвыходнасці, можна сказаць.

Паспрабуем уявіць, што здарылася б, які шурум-бурум узнялі б нашы дзяржаўныя СМІ, калі б (нават страшна падумаць!) аплявуху атрымаў бы непадсудны.

Азаронак з тэлеэкрана дзён пяць расказваў бы пра спробу няўдалага дзяржперавароту, пра раскрытую тэрарыстычную ячэйку групы Зяньковіча–Фядуты–Кастусёва, пра тое, што ніводзін мускул не здрыгануўся на твары пацярпелага.

Мукавозчык тут жа заклікаў бы жыўцом закапаць *«мразь, поднявшую руку на гаранта»*, і ўтрамбаваць зямлю прыгнанай з Печаў танкавай калонай.

Яго каляжанка па «СБ» Гладкая праспявала б гімн бясстрашным сілавікам-ахоўнікам, якія захінулі аб'ект атакі сваімі забронекамізэленымі целамі, а заадно адкапала б у біяграфіі нападніка дзеда-паліцая, прадзеда-эсэсаўца і прабабулю, што служыла ў гітлерюгендзе.

У выніку няцяжка здагадацца, што няшчаснага магла б чакаць і вышэйшая мера. Ну калі за аддалена падобную ляльку – пакаранне суровае, то за аплявуху (тут абразу можна лёгка перакваліфікаваць у замах на бясцэннае жыццё) – і пагатоў.

Вядома, любое параўнанне кульгае, як кажуць тыя ж французы. І, відаць, не зусім дарэчы параўноўваць, як абараняецца гонар і годнасць вышэйшых службовых асоб у Францыі і Беларусі. Ва ўсім цывілізаваным свеце палітычныя карыкатуры не ўспрымаюцца як абраза, іх на дух не пераносяць толькі дыктатары рознай масці. Ім усё здаецца, што народны смех хістае іхнія троны, пагражае іхняй нічым не абмежаванай уладзе. Таму і абражаюцца ад кожнай лялькі ці рэпы.

А ўпэўнены ў сабе лідар не носіцца са сваёй годнасцю як з пісанай торбай, ведаючы, што ніякая карыкатура, ніякі анекдот і нават малапрыемная аплявуха не зняславяць яго. Гэта прыкмета моцнага палітыка.

І таму – брава, месье Макрон!



БЕЗ РОЗОВЫХ ОЧКОВ

Александр КЛАСКОВСКИЙ

# Нужно ли наступать на грабли, делая свой имидж еще мрачнее?

*Политический обозреватель о том, зачем власти сами создают себе проблемы на ровном месте*

– Складывается впечатление, что внешняя политика Минска совсем разладилась. Белорусские власти наживают неприятности на свою голову даже там, где это совсем не обязательно.

Например, министр иностранных дел Макей 14 июня на телеканале ОНТ назвал западную политику *«триумфом говорящих голов без мозгов»*. А Литву, выступающую за усиление санкций против белорусского режима, наградил словечком *«пигмей»*.

Стоит отметить, что Литва, население которой в три с лишним раза меньше белорусского, опережает, однако, Беларусь и по объему ВВП (не на душу населения, а в принципе!), и по средней зарплате (причем намного), и по размеру пенсий.

Так что выпад выглядит опрометчивым и фактологически, и по причине того, что накалять и без того сложные отношения с соседом – мягко говоря, недальновидно. Особенно для говорящих голов с мозгами, к числу которых наверняка относят себя деятели белорусского МИДа.

Лукашенко 19 июня, посещая 2-ю детскую клиническую больницу Минска, вдруг заявил, что Беларусь не будет принимать летящие через Украину самолеты, поскольку та *«поступила гадко»*, закрыв свое небо для «Белавиа». То есть получается, что в отместку Украине Минск прижмет авиакомпании из Турции, Эмиратов?

Странное решение, если учесть, что эти государства отнюдь не давят белорусский режим санкциями, более того – явно закрывают глаза на его репрессивную политику, вызывающую возмущение в ЕС и США.

Белорусский режим спешит предстать в невыгодном свете даже в тех случаях, когда обстоятельства никак не принуждают.

Например, Беларусь оказалась единственным государством, которое на заседании Генеральной ассамблеи ООН 18 июня проголосовало против резолюции, призывающей все страны прекратить поставки оружия в Мьянму, а захвативших там власть военных – прекратить насилие и восстановить демократию.

На ровном месте создали проблемы властям и заявления Лукашенко о намерении организовать авиасообщение с Крымом, а также пригласить следователей из самопровозглашенной ЛНР, чтобы они допросили пойманного после посадки самолета Ryanair оппозиционного блогера Протасевича.

Возвращаясь к отношениям с Вильнюсом, стоит подчеркнуть, что там стоят на ушах от резко возросшего потока нелегалов из Беларуси.

Минск на голубом глазу заверяет, что его погранцы, как обычно, бдят.

Но в странах ЕС охотно цитируют в этой связи сообщения ряда близких к белорусским властям медиа о том, что Лукашенко 26 мая в парламенте заявил, обращаясь к Европе: *«Мы останавливали наркотики и мигрантов – теперь будете сами их есть и ловить»*.

Репутация трудно нарабатывается, но разрушается легко и зачастую непоправимо. Репутация Минска на международной арене и раньше была, мягко говоря, не блестящей.

И уж просто катастрофически режим подорвал ее за последний год, ввязавшись в конфронтацию с изрядной частью мира.

Причем белорусское начальство продолжает наступать на грабли, делая свой имидж еще мрачнее.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

Ілля ДАБРАТВОР:

# «У Варшаве працую таксістам і ў масоўках кіно...»

*Грамадскі актывіст, які месяц таму з'ехаў у Польшчу, распавёў «Народнай Волі», ці складана з пяццю дзецьмі пачынаць на новым месцы «жыццё з нуля».*



Напрыканцы мая гэтага года на старонцы **Іллі Дабратвора** ў «Фэйсбуку» з'явілася фота: ён і пяцёра дзяцей у самалёце, які звёз іх з Мінска ў Варшаву. *«На вялікі жаль, я вымушаны дзеля бяспекі дзяцей пакінуць краіну»,* – падпісаў здымак Ілля.

17 мая Ілля Дабратвор быў выкліканы на допыт у Следчы камітэт. Яшчэ раней з краіны з'ехала яго жонка Іна, пасля таго як суд аштрафаваў яе на 11.600 рублёў за вывешаныя ў акне партрэты Святланы Ціханоўскай, Марыі Калеснікавай, Віктара Бабарыкі і герб «Пагоня».

Акрамя таго, у доме Дабратвора прайшлі вобшукі...

– Іна ўжо знаходзілася ў Варшаве, а я пасля паходу ў Следчы камітэт прыняў рашэнне адправіцца з дзецьмі туды ж, – кажа Ілля. – Да таго ж з боку праваахоўнікаў ціск ішоў неверагодны – у дзверы амаль штодзень грукала міліцыя.

Жонка мне адразу сказала, што трэба з'язджаць як мага хутчэй, але я яшчэ некалькі дзён думаў.

**– Складана было сабрацца у дарогу пяцярых дзяцей?**

– Нічога складанага, бо ў самалёт мы бралі з сабой мінімум рэчаў. Набывалі квіткі проста ў аэрапорце, нейкага асаблівага нагляду не было. Памежніца паглядзела, што я вылятаю ў Польшчу па працоўнай візе, таму, магчыма, было такое стаўленне.

А фотаздымак з сям'ёй у самалёце я апублікаваў у «Фэйсбуку» пасля таго, як мы ўзляцелі.

**– Наконт працы дамаўляліся загадзя? Такую ж сям'ю карміць трэба ў любой краіне...**

– Пакуль прыляцелі, жонка нам зняла пакой на дзесяць дзён, бо неабходна было такі тэрмін знаходзіцца на каранціне.

Хацелася, безумоўна, знайсці больш-менш нармальную працу, таму ў хуткім часе набыў у Варшаве аўтамабіль. Трэба адзначыць, што тут аўто каштуюць на парадак танней, чым у Мінску.

У Варшаве працы хапае, і за яе куды больш плацяць, чым у Беларусі, але трэба было прыглядзецца, ацаніць сітуацыю.

Першым часам здымаўся ў масоўках кіно, гэта можна было рабіць штодзень. За масоўку ў дзень плацяць ад 100 злотых (каля 30 долараў) за некалькі гадзін працы.

**– Якія былі яшчэ варыянты працаўладкавання?**

– Работа таксістам на сваёй машыне. Калі не ленавацца, то больш за 100 долараў у дзень лёгка можна зарабіць. У выхадныя – у два разы больш. Адным словам, за тыдзень можна займець сярэдні беларускі месячны заробак.

Дарэчы, для таго каб працаваць таксістам у Польшчы, падыходзіць і беларускае вадзіцельскае пасведчанне. Акрамя таго, неабходны былі даведка, што ў мяне няма судзімасці ў Польшчы, і даведка з дарожнай паліцыі.

Калі ты добра валодаеш беларускай мовай, то праблем у зносінах з польскімі кліентамі практычна няма. Рэдка калі пытаюцца: «Адкуль пан?» Многія думаюць, што прыехаў з Беласточчыны.

**– Дзе зараз жыве сям'я?**

– Здымаем трохпакаёвую кватэру ў Варшаве, і трэба сказаць, што арандаваць жыллё тут значна даражэй, чым у Мінску. 2500 злотых (каля 700 долараў) у месяц без уліку камунальных паслуг Хаця калі ты без сям'і, то можна знайсці жыллё і за 200 долараў.

Цікава: у Польшчы няма такой тэндэнцыі, як у Беларусі, што ў маленькіх гарадках зняць жыллё танней, чым у сталіцы. Кошты паўсюль прыкладна аднолькавыя, таму ехаць у правінцыю не мае сэнсу. У Варшаве, напрыклад, значна больш варыянтаў працаўладкавання.

**– Ваша жонка таксама працуе?**

– Так, на аддаленай рабоце. Займаецца дакументаабаротам у адной кампаніі. Іна ў Мінску выкладала англійскую мову, але ў Польшчы беларускі дыплом аб вышэйшай адукацыі не прызнаецца, таму працу па спецыяльнасці знайсці не так проста.

**– Ужо вызначыліся, дзе будуць вучыцца дзеці?**

– Пойдуць у школу, пакуль выбіраем. Сафіі зараз 17 гадоў, Яўсею – 15, Герману – 11, Марку – 9 і Агаце – 7.

Мяне ўразіла, што тут на дзяцей, якія не дасягнулі 18 гадоў, даюць штомесячную дапамогу – па 500 злотых на кожнае дзіця. А ў «сацыяльна арыентавай» Беларусі дапамога выплачваецца толькі па догляде дзяцей да 3 гадоў.

**– У вас жа застаўся дом пад Мінскам. Што з ім?**

– Дом пад арыштам, і я не ведаю, як далей будуць разгортвацца падзеі ў Беларусі. Хаця ёсць у Мінску людзі, на якіх я аформіў даверанасць і якія будуць даглядаць нерухомасць.

**– Вы з'ехалі назаўсёды ці ў бліжэйшы час збіраецеся з сям'ёй вярнуцца ў Беларусь?**

– Безумоўна, хочацца жыць у сваёй роднай краіне, але трэба думаць і пра перспектывы. Таму пакуль пажывём у Польшчы, а далей й – жыццё пакажа...

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ТАМ, ЗА КРАТАМІ

# Андрэй Пачобут да 8 ліпеня будзе ў каранціне

*Палітвязень захварэў на каранавірус.*

Нагадаем: 10 сакавіка гэтага года сілавікі завялі крымінальную справу за правядзенне імпрэзы ў польскай сацыяльнай школе сакавіцкай імя Рамуальда Траўгута ў Брэсце.

23 сакавіка ў Гродне была затрымана кіраўніца не прызнанага ўладамі Саюза палякаў **Анжаліка Борыс**, а яшчэ праз два дні – журналіст і актывіст гэтага ж саюза **Андрэй Пачобут**.

Затрыманні адбыліся ў межах крымінальнай справы паводле ч.3 арт.130 «Распальванне расавай, нацыянальнай варожасці». Паводле гэтага артыкула абвінавачанаму можа пагражаць ад 5 да 12 гадоў пазбаўлення волі.

Апошнім часам блізкія і калегі Андрэя Пачобута білі ў званы – вязню патрэбна тэрміновая медыцынская дапамога.

– *На гэтым тыдні размаўляла з турэмным доктарам Андрэя*, – распавяла жонка вязня **Аксана ПАЧОБУТ**. – *Тэст на COVID-19 яму зрабілі толькі 16 чэрвеня, таму на каранціне ён будзе 21 дзень – да 8 ліпеня. Увесь гэты час адвакат наведаць яго не зможа. Лісты, я так бачу, таксама ад яго не выпускаюць. Апошні ліст прыйшоў 14 чэрвеня, а напісаны ён быў 8 чэрвеня. Муж паведаміў, што яго самаадчуванне пагаршаецца, збіваецца сардэчны рытм.*

Паводле слоў Аксаны Пачобут, зараз Андрэй знаходзіцца ў спецыяльнай інфекцыйнай камеры пад наглядам.

– *Калі паўторны тэст 29 чэрвеня будзе адмоўны, то перавядуць у звычайную камеру, дзе тым не менш каранцін будзе для яго працягвацца*, – дадае яна. – *Медыкаменты прымае, прызначылі антыбіётык. Тэмпература і сатурацыя вымяраюцца, на дадзены момант яны ў норме.*

**Сяргей ЗАБЛОЦКІ.**

ЧУЛІ?

# У Літве мінімальны заробак вырасце да 600 долараў «чыстымі»

У 2022 годзе мінімальны заробак у Літве можа павялічыцца да 703 еўра «на паперы» (або 504 еўра «чыстымі»), піша *Delfi*.

У гэтым годзе памер мінімалкі складае 642 еўра «бруднымі», або 468 еўра на рукі.

У Беларусі з 1 студзеня мінімалка складае 400 рублёў, на сёння гэта 132 еўра.

504 еўра – гэта трохі больш за 600 долараў па цяперашнім курсе, альбо прыкладна 1500 беларускіх рублёў.

ОТКРЫТЫМ ТЕКСТОМ

# Пропущенный удар

*Войны заразны.*
***Франклин Рузвельт***

22 июня 1941 года вождь всех времен и народов товарищ Сталин пропустил удар другого вождя – Гитлера. И непобедимая Красная Армия драпала до самой Москвы, бросая танки, машины, пушки, боеприпасы, топливо, сдаваясь в плен миллионами.

Как так вышло? Советские историки, самые правдивые и честные, объяснили причины разгрома 1941 года тем, что Гитлер начал войну внезапно (тихонько подвезли к границе танки, пушки, самолеты и живую силу – и никто этого не заметил), наши войска были на марше, наши танки были старые, и их было очень мало. А немцы были вооружены новейшей техникой, которой было очень много, имели опыт и ударили внезапно.

Так нас учили в школе. Учили, что Гитлер решил покорить самое справедливое государство в мире – СССР. Сделать из советских людей рабов. И этой войны невозможно было избежать.

После распада Советского Союза, когда была открыта часть архивов, обнаружились явные нестыковки с прежней исторической правдой. Выяснилось, что войну можно было предотвратить, не вступая в преступные альянсы с Гитлером, не деля с ним Польшу с помощью секретных соглашений. Можно было выбрать себе в союзники те государства, с армиями которых советские войска встретились на Эльбе...

Не потворствуй Сталин Гитлеру в оккупации Польши, не было бы «внезапного» удара – между Германией и СССР было бы не менее 700 километров польской земли. Более того, приди Сталин на помощь Польше в сентябре 1939 года, он при поддержке США и Великобритании мог бы разгромить Гитлера меньшими силами и малой кровью. Сталин снискал бы благодарность не только поляков, но и граждан всего цивилизованного мира. Уберег бы страну от разгрома 1941 года, миллионов жертв четырехлетней войны.

Но советский вождь вступил в альянс с Гитлером, распотрошив Польшу и проведя в Бресте парад по случаю общей победы над ней.

Польши товарищу Сталину показалось мало. На севере славному городу Ленинграду угрожала финская военщина. Сталин решил границу отодвинуть. Отодвинул. Но какой ценой!

Потом товарищ Сталин решил освободить от гнета румынских помещиков Бессарабию (нынешняя Молдова), а заодно и Северную Буковину (Черновцы, Украина). Было это за год до войны с Гитлером. Освободительный поход должен был возглавить генерал Г.Жуков. Южный фронт под его командованием включал (только вдумайтесь!) армию численностью 460.000 человек, 3112 танков (немцы выставили против СССР 3700 танков), 12.000 орудий и минометов, 2168 самолетов. Румынская разведка вскрыла эту устрашающую картину, доложила правительству – последовал приказ на отход.

Зачем Сталину потребовались эти территории? Сейчас ни у кого нет сомнений: нужно было держать под угрозой применения авиации нефтепромыслы Румынии, откуда шла нефть в Германию, а через Северную Буковину проходила рокадная железная дорога стратегического назначения, причем, колея там была европейской. Напомню, что друг Сталина Гитлер в это время воевал против Франции и Британии. Конечно, тот понял, что ударь Сталин по Румынии, ее нефтепромыслам – немецкая армия встанет.

Ряд историков считает, что именно эти события подтолкнули Гитлера начать проработку войны с СССР. Согласитесь: странная была дружба между двумя вождями, патологически рвущимися к мировому господству. Говоря по-простому – кто кого перехитрит.

Сейчас уже известно о том, что не было никакой внезапности в немецком нападении. Разведка не дремала – в Кремль непрерывно шли донесения, даже дата и время были доведены Сталину. Но тот ничего не боялся. Знал, что у него в приграничных округах многократное превосходство в технике и живой силе. Только танков было 13.000 (всего – более 25.000) против 3700 немецких, из них 2200 – танки КВ и Т-34, о которых немцы могли только мечтать.

Почему же драпали до Москвы, бросая всё и сдаваясь в плен? Потому что, по мнению многих историков, Сталин готовил Красную Армию не к обороне, а к нападению. Он придвинул самые мощные корпуса прямо к границе, и они вместо быстрого отхода на заранее подготовленные позиции после нападения немцев пытались атаковать – так учили. Атаковали, как правило, неудачно – инициатива была у немцев. И не помогали ни новейшие танки, ни их огромное количество. И солдаты, видя, как драпают на восток партийные бонзы, не хотели упираться – мало кто в те месяцы хотел погибать за Сталина, за принудительную коллективизацию, голодомор, бесправие и нищету. И только когда немецкая армия стала безжалостно уничтожать на захваченной территории мирное население, не щадя ни пленных, ни женщин, ни детей (и об этом узнали солдаты и офицеры), советская армия всерьез взялась за оружие. И стала воевать не за Сталина, а за своих близких и родных, за малую родину каждого. Советская армия мстила немцам за их жестокость, за самодовольство, за унижение. И победила. Вместе с союзниками.

**Сергей НЕРОВНЫЙ.**

г.Кричев.

ИЗ ЗАЛА СУДА

# Внемлет ли Фемида голосу защитников Виктора Бабарико?

*Завершается процесс по «делу «Белгазпромбанка». Как известно, прокурор запросил **Виктору Бабарико**, которого обвиняют в получении взяток и «отмывании» денег, максимально возможное наказание – 15 лет лишения свободы. Защита настаивает, что преследование экс-банкира связано исключительно с его политической позицией и желанием баллотироваться в президенты. В суде прозвучали новые подробности того, как следователи работали с фигурантами. Запись судебных прений передали в печать слушатели, допущенные на процесс.*

Основной тезис обвинения прозвучал вне зала суда и еще до того, как обвинители начали в процессе оглашать обвинение, считают защитники Виктора Бабарико.

Так, в день начала судебного разбирательства генпрокурор **Андрей Швед**, отвечая на вопрос журналиста «СБ. Беларусь сегодня», заявил, что *«следствие проведено объективно и беспристрастно»*, *«это абсолютно коррупционное дело, чистой воды уголовщина»*, и назвал обвиняемых *«взяточниками»* и *«негодяями»*.

– Таким образом был задан курс, который стороной обвинения не изменен и, полагаю в силу иерархичности прокуратуры не мог быть изменен: «обвиняемые – негодяи, их действия – уголовщина, а следствие проведено безупречно», – прозвучало во время судебных прений.

Защита настаивает: следствие проведено необъективно, с нарушением прав обвиняемых.

– Это дело о том, как успешный руководитель успешного банка пошел участвовать в выборах президента и уже через месяц после начала своей кампании был заключен под стражу и подвергнут уголовному преследованию. Говоря правовым языком, это дело о поражении в правах, о нарушении гражданских и политических, а также процессуальных прав в отношении Виктора Бабарико, – заявила адвокат Наталья Мацкевич.

Адвокаты указывают на нарушение права на свободу, презумпции невиновности, права на доступ к суду, права на защиту, права не быть принуждаемым к даче показаний и признанию себя виновным, права на публичное судебное разбирательство, права обжаловать приговор, права на равенство перед законом и как следствие – права участвовать в выборах на государственную должность.



Архивный снимок. Фото из телеграм-канала официальной группы Виктора Бабарико.

### Бабарико назвали преступником сразу после задержания

Уголовное дело было возбуждено 11 июня 2020 года в отношении **Сергея Добролета** (заместитель председателя правления банка), **Дмитрия Шевчука** (заместитель начальника юридического управления банка) и иных лиц. В постановлении о возбуждении дела никаких подозрений в отношении Бабарико не описано, он вообще не упомянут среди лиц, которые подозревались в уклонении от уплаты налогов и легализации средств, добытых преступным путем (ч.2 ст.243, ч.1 ст.235 УК).

Тем не менее уже на следующий день **Иван Тертель** (на тот момент – председатель Комитета госконтроля) заявил, что *«в настоящее время имеются убедительные доказательства его [Бабарико] причастности к данной противоправной деятельности»*.

18 июня, в день задержания Виктора Бабарико, Тертель сообщил госСМИ, что экс-банкир *«задержан в связи с тем, что являлся непосредственным организатором и руководителем противоправной деятельности, пытался воздействовать на показания свидетелей, предпринимал попытки сокрытия следов совершенных преступлений и буквально на днях снял крупную сумму денег с подконтрольных ему счетов»*.

Бабарико был задержан, когда стало понятно, что он как потенциальный кандидат в президенты не только набрал достаточное количество подписей для регистрации, но и получает значительную поддержку избирателей по всей стране.

19 июня **Александр Конюк** (на тот момент – генеральный прокурор) заявил, что *«преступные деяния совершались системно, на протяжении длительного времени, с использованием транснациональных противоправных схем»*, *«создали реальную угрозу интересам национальной безопасности нашей страны»*.

13 июля, в разгар избирательной кампании, телеканал ОНТ выпускает «разоблачительный сюжет» под названием «Чёрная касса «Белгазпромбанка». Замначальника управления ДФР **Дмитрий Дягилев** рассказывает, что *«Бабарико и топ-менеджеры банка получали «грязные деньги» преступным путем»* и что покупка облигаций «Белгазпромбанка» на предъявителя позволяла *«незаконные доходы руководства банка сделать чистыми»*. Старший инспектор КГК **Артем Дунько** в интервью БТ заявляет, что *«преступная деятельность осуществлялась под непосредственным руководством бывшего руководителя банка Бабарико и иных лиц»*.

Таким образом должностные лица КГК и Генпрокуратуры в самом начале расследования публично, в утвердительной форме заявляли о совершении Бабарико и другими обвиняемыми преступлений, о получении ими незаконных доходов, о руководстве преступной деятельностью со стороны Виктора Бабарико. По мнению защиты, такие высказывания *«несовместимы с презумпцией невиновности, поскольку указывают на виновность подзащитного, которая не установлена вступившим в законную силу приговором суда»*.

Задержание Виктора Бабарико лишило его возможности участвовать в избирательной кампании. Органы уголовного преследования собрали материалы о том, что экс-банкир получал незаконный и незадекларированный доход, и направили информацию об этом в Центризбирком.

Несмотря на то, что только суд устанавливает виновность человека, ЦИК взяла за основу аргументы КГК, и Бабарико не зарегистрировали как кандидата. Будучи в СИЗО КГБ, он даже не мог публично ответить на обвинения, которые сыпались на него из уст чиновников в эфирах госТВ.

Главный конкурент Бабарико на выборах тоже активно комментировал его деятельность. Так, на Всебелорусском народном собрании Александр Лукашенко заявил:

– Все парятся по поводу Бабарико: ах, конкурент президента, посадили! Да плевать я хотел на таких конкурентов. В Турции собственность понастроил. Здесь особняки, никто так не живет, как он. Автомобили, дома, детей втянул в это, поотхрывал предприятия. Что вам еще надо? Я что, должен спокойно на это смотреть?

К месту будет напомнить, что Лукашенко назначает судей, генпрокурора, председателей КГК и КГБ, и такие заявления – повод поставить под сомнение объективность и непредвзятость дознания, предварительного расследования, прокурорского надзора, а также уверенность в независимости суда.

### Что рассказали про взятки бизнесмены

Во время судебного разбирательства были озвучены методы следствия, о которых раньше общественность не знала. Так, на очной ставке между Виктором Бабарико и членом правления банка **Кириллом Бадеем**, которая состоялась 8 июля, следователь КГБ **Шпаков П.В.** допустил высказывание, что *«все мы (участники следственного действия) являемся избирателями и как избиратели хотели бы услышать показания Бабарико»*, тем самым связывая позицию обвиняемого с его политическими амбициями.

При допросе Бабарико 24 июля следователь отказался внести в протокол заявление обвиняемого о том, что он считает, что уголовное преследование обусловлено участием в избирательной кампании, также следователь не позволил самому Бабарико в полном объеме внести замечания в протокол. Были факты, когда следователь в нарушение закона проводил беседы с экс-банкиром без участия защитников.

Во время таких разговоров руководитель следственной группы позволил себе критиковать защитников, говорил, что они только вредят фигуранту. После выборов, 12 августа, он заявил, что *Бабарико «затеял игру в президентство»* и что *«это вылилось в демонстрации, где погибли люди»*, что теперь *«совсем другие игрища»*, оценивал это как *«государственный переворот, повлекший человеческие жертвы»*, за которые Бабарико может понести ответственность.

Что касается предъявленного обвинения в получении взяток и отмывании денег, то защита указывает, что позиция обвинения базируется на том, что у председателя правления банка были определенные полномочия: обязательность указаний, право применять дисциплинарные взыскания, продлевать контракты с зампредами, распределять между ними обязанности, а также право решающего голоса председателей коллегиальных органов.

– Однако само наличие этих полномочий законно для руководителя банка и его коллегиальных органов и не говорит о том, что эти полномочия использовались против интересов службы и в преступных целях, – прозвучало во время судебных прений. – Когда мы стали выяснять эти вопросы в судебном заседании, то из показаний обвиняемых и свидетелей, без какого-либо исключения, установили: никому из заместителей председателя правления Бабарико не давал указаний действовать в интересах каких-либо клиентов банка. Иные сотрудники вообще не получали от него никаких указаний.

Ни один из допрошенных в суде сотрудников банка не назвал ни одного дисциплинарного взыскания, которое было бы применено Бабарико или его заместителями, тем более в каких-либо особых целях. Назначение, продление контрактов и распределение обязанностей между заместителями председателя правления соответствовало их компетенциям, подтвержденным аттестацией Национального банка, ежегодной внутренней оценкой результатов деятельности и направлениям.

Не было названо ни одного случая, когда председатель правления или председатели кредитных комитетов на их заседаниях воспользовались бы правом решающего голоса или правом вынести решение вопроса на правление. Напротив, все члены коллегиальных органов банка говорили о том, что эти органы путем демократического и открытого обсуждения стремились к принятию обоснованных решений, к консенсусу. Ни «взяткополучатели», ни «взяткодатели» не могут объяснить, за что же конкретно и почему якобы передавались взятки.

В обвинении всё время повторяется *«за сотрудничество с банком»*. Но сотрудничество клиентов с банком от отдельных должностных лиц банка не зависит. Из показаний признавшихся в совершении преступлений лиц мы понимаем лишь то, что те, кто назвал себя взяткополучателями, якобы получали вознаграждение за то, что добросовестно и компетентно выполняли свою работу в банке. А те, кто назвал себя взяткодателями, якобы перечисляли и передавали денежные средства (причем не свои) – за то, что приносило банку прибыль.

В этом нет даже намека на состав преступления, на логику и здравый смысл.

### Как следователи работали с обвиняемыми

Один из основных аргументов обвинения – все фигуранты дела, за исключением Бабарико, признали вину, в том числе те, кто перешел в статус свидетелей.

– Сам факт признания вины ничего не значит при отсутствии в их действиях состава преступления, – возражает защита. – А насколько их показания последовательны – большой вопрос. Когда **Дмитрий Кузьмич** (зампредседателя правления банка) одни и те же обстоятельства в начале следствия описывает как экономические отношения в бизнесе, а после времени, проведенного в СИЗО КГБ, и консультаций, как он сказал, «со следователями», называет их взяткой, нельзя согласиться, что это последовательность. В судебном заседании кроме "консультирования" со следствием и внепроцессуальных бесед мы услышали и другую информацию, которая тщательно скрывается, но даже в малых количествах не то что говорит, но кричит сама за себя.

Мы услышали обрывки историй о человеческих трагедиях и унижениях в то время, как формировались показания, которые представлены суду: реальная угроза жизни вследствие прекращения лечения Алексея **Задойко** (первый заместитель председателя правления) в результате его заключения под стражу; госпитализация в процессе задержания **Сергея Шабана** (зампред), который в этот же день был всё же возвращен в ДФР, а затем водворен в СИЗО КГБ, мы просмотрели видео унизительного допроса **Александра Ильясюка** (зампред); узнали, что на первоначальном этапе расследования под стражу был заключен не только сам Добролет, но и его дочь, не говоря о том, что были разрушены семейные связи, бизнесы, карьеры.

Из документов и показаний свидетелей, которые находятся на свободе, мы узнали, что Бабарико и его заместители успешно в течение многих лет управляли банком. Что все они были профессиональны и компетентны, назначены на должности в соответствии с надлежащими процедурами, которые включали и аттестацию в Нацбанке.

Что решения о заключении договоров с клиентами, о которых идет речь в обвинении, принимались исключительно в интересах банка, а решения о заключении кредитных договоров – в принципе коллегиально, на основе заключений соответствующих служб.

Что никто из обвиняемых не лоббировал интересы компаний, не влиял на принятие решений и совершение действий в отношении этих клиентов другими сотрудниками банка. Что сотрудничество с этими клиентами приносило банку прибыль, а компании развивались. Что у этих компаний были учредители, в том числе иностранные, которые получали дивиденды из прибыли.

Что решения о выплате дивидендов соответствовали законным процедурам. И так было долгое время. Бизнесы развивались, банк процветал, люди строили свою жизнь и карьеру. Но в один момент всё изменилось, и стали говорить: «Так это же преступная деятельность, это всё Бабарико, это он организовал и руководил ею, это ему принадлежат иностранные компании, их доли в белорусских компаниях, и он же от этого получал и распределял взятки».

Почему так произошло? Уголовное преследование и заключение под стражу Виктора Бабарико, его близких, друзей и бывших коллег использовано не для целей реального раскрытия преступления, доказательства виновности или обоснования невиновности, это стало инструментом дискриминации по мотиву политических убеждений и средством исключения Бабарико из избирательного процесса.

*(gazetaby.com)*

ДЗІКУНСТВА

# Як фатографа пакінулі без фотаапарата

*66-гадовага пенсіянера з Навагрудка Алега Кокаша аштрафавалі на 2900 рублёў за тое, што 9 Мая на гарадской плошчы ён фатаграфаваў тэлефонам, на якім была налепка з «Пагоняй». Дарагі фотаапарат у яго канфіскавалі да выплаты штрафу, а чахол ад тэлефона з налепкай суд пастанавіў знішчыць. Абласны суд пакінуў рашэнне без змен.*

### «Я 30 гадоў фатаграфую ўсе мерапрыемствы...»

**Алег Купрыянавіч Кокаш**, абскарджваючы ў Гродзенскім абласным судзе, на яго погляд, несправядлівае рашэнне Навагрудскага суда, распавёў, што фатаграфуе ў родным горадзе ўсе значныя мерапрыемствы з 1972 года. Усё сваё свядомае жыццё ён працаваў фатографам – пачынаў у Доме быту, а пазней стаў індывідуальным прадпрымальнікам.

*«Мяне як фатографа ў Навагрудку ведае кожны другі,* – распавядаў ён у судзе. – *Бо я фатаграфаваў людзей і персанальна, і на розных святах, мерапрыемствах, урачыстасцях.*

І сёлета ён традыцыйна выйшаў 9 Мая на цэнтральную плошчу горада, каб не толькі адзначыць Дзень Перамогі, а і ўвекавечыць гэта на сваіх здымках.

З сабой у яго быў дарагі фотаапарат Nikon і тэлефон. Імі ён па чарзе фатаграфаваў падзеі, якія адбываліся на цэнтральнай плошчы. На тэлефоне ў яго была налепка з «Пагоняй», і на рамні фотаапарата прымацаваны невялічкі значок з гістарычным гербам, які спадар Кокаш насіў з сабою амаль 30 гадоў.

Нечакана да яго падышоў маёр **Максім Урбан** і запатрабаваў прайсці з ім. На пытанне Алега Купрыянавіча, на якой падставе яго затрымліваюць, маёр адказаў, што ў яго на тэлефоне значок «Пагоня». Кокаш пачаў абурацца, што «Пагоня» – афіцыйна зарэгістраваны сімвал, але маёр настаяў на сваім.

У міліцыі на Кокаша склалі пратакол за правядзенне несанкцыянаванага пікета. Усе яго довады аб тым, што знак «Пагоня» ахоўваецца дзяржавай, занесены ў агульнарэспубліканскі рэестр гістарычных каштоўнасцяў, на мясцовых міліцыянераў уражання не зрабілі. Мужчыну адвезлі ў ізалятар часовага ўтрымання Карэліцкага РАУС, дзе ён прасядзеў трое сутак.



– *Гэта былі страшныя суткі,* – згадвае пенсіянер. – *Я там пакінуў рэшткі свайго здароўя, бо у камеры было сыра і холадна, як нібыта адмыслова выхаладзілі перад тым, як мяне туды пасадзіць. Ды і што я зрабіў, каб мяне з Навагрудка везлі ў ізалятар у Карэлічы?*



Выява «Пагоні» ў Навагрудскім гісторыка-краязнаўчым музеі.

Кокаш прызнаецца, што яму было вельмі крыўдна за такое абыходжанне з ім. Маўляў, ён сталы чалавек, у яго ўжо пяць унукаў, а яго, як апошняга хулігана, засунулі за краты.

### «Я думаў, суддзя разбярэцца»

У судзе супраць Кокаша сведчыў той самы маёр Урбан. Ён распавёў, што падставай для складання пратакола стала тое, што Кокаш нібыта раней яму распавядаў аб сваёй прыналежнасці да партыі АГП. А паколькі, маўляў, ён начапіў значок «Пагоня», то такім чынам выказваў свае грамадска-палітычныя погляды і дэманстратыўна паказваў грамадзянам значок, а значыцца, праводзіў адзіночны пікет, які не быў санкцыянаваны ўладамі.

Кокаш заявіў суду, што складзены на яго пратакол – поўны абсурд.

– *Я зацятаваў з закона азначэнне пікета, звярнуў увагу на тое, што гэта не мае нічога агульнага з тым, у чым мяне абвінавачваюць. Затым я звярнуў увагу суда на тое, што сімвал «Пагоня» афіцыйна зарэгістраваны ў дзяржаўным рэестры, нагадаў, што ў Навагрудскім музеі ён, памерам метр на паўтара, знаходзіцца на бачным месцы.*

Самае прыкрае, паводле слоў Кокаша, было тое, што суддзя **Ігар Ваўчок** усё ўважліва выслухаў, а напрыканцы пасяджэння абвяшчыў: сто базавых велічынь штрафу. Гэта 2900 рублёў! Пенсіянеру! Акрамя гэтага, паводле рашэння суда, канфіскавалі фотаапарат, аб'ектыў, тэлефон і значок з «Пагоняй». Прычым, значок і чахол фотаапарата з налепкай суд пастанавіў знішчыць.

### «У абласным судзе мяне таксама выслухалі...»

Тыя самыя аргументы Алег Купрыянавіч прыводзіў і ў абласным судзе. І суддзя **Дзмітрый Бубенчык** таксама ўважліва яго выслухаў, але довады Кокаша да ведама не прыняў і пакінуў рашэнне Навагрудскага суда без змен.

Алег Купрыянавіч вельмі ўзрушаны: як можа беларускі суд выносіць рашэнне знішчыць значак «Пагоня»?! Кажа, што не можа з гэтым змірыцца, яму гэта нават сніцца, адчаго ён прасынаецца сярод ночы.

– *Я ганаруся, што жыву ў першай сталіцы Вялікага Княства Літоўскага, «Пагоня» была гербам гэтай дзяржавы – гэта наша гісторыя, а мяне за яго судзяць. Гэта поўны абсурд!* – абураецца жыхар Навагрудка Алег Кокаш.

Што датычыцца таго, ці падаваць апеляцыю ў вышэйстаячую інстанцыю, – Алег Купрыянавіч моцна задумаўся. Пенсія ў яго ўсяго 360 рублёў, а ўжо зараз трэба выплачваць 2900, ды і падача чарговай апеляцыі каштуе грошай.

Дарэчы, пенсіянер распавёў, што да гэтага яго ўжо тройчы затрымлівалі падчас пратэстных акцый у Навагрудку і тройчы судзілі.

– *Але на ўсіх гэтых акцыях я толькі здымаў тыя падзеі, якія адбываліся ў маім родным горадзе,* – канстатуе Кокаш. – *Прафесія ў мяне такая – фатограф. І нават на пенсіі я не магу жыць без фатаграфіі.*

Пасля судовых разбіральніцтваў Алег Купрыянавіч напісаў заяву на імя старшыні Навагрудскага райвыканкама з просьбай выдаць яму афіцыйны дазвол на нашэнне значка «Пагоня», спаслаўшыся на пастанову Савета Міністраў №578 ад 14 мая 2007 года, якой «Пагоня» ўнесена ў спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

ПЕЧАЛЬНАЯ ИСТОРИЯ

# «Однажды внучка спросила: «Бабушка, а может, мама умерла, а вы мне не говорите?»

*Мать политзаключенной – о том, как переживает с внуками вынужденную разлуку с близким человеком.*

*Семилетняя девочка распечатала, как смогла, фотографию своей мамы, под ней поставила смайлики в виде сердечек и написала большими буквами: «Мама, ты когда вернешься?»*

*– У меня просто разорвалось сердце, когда я это увидела, – говорит ее бабушка.*

*Ее дочь и мама маленькой девочки – политзаключенная* ***Ольга Филатченкова*** *– уже семь месяцев находится за решеткой.*

*Родители Ольги рассказали о дочери и внуках.*

Ольга Филатченкова – та самая единственная преподавательница, которая вместе с одиннадцатью учащимися вузов проходит по «делу студентов». Ольга работала ассистенткой кафедры программного обеспечения информационных технологий БГУИР.

Во время выборов она решила стать независимым наблюдателем, а после была одной из участниц видеообращения сотрудников университета против насилия.

12 ноября в квартире, где Ольга живет с 18-летним сыном и 7-летней дочкой, силовики чуть не выбили дверь.

– *То, что произошло, была просто ужасно!* – вспоминает ее отец **Алексей Филатченков**. – *Оля позвонила нам и сказала, что к ней в квартиру ломятся. Мы живем рядом, сразу бросились туда. Когда пришли, увидели, как четверо чекистов пытались войти, но Оля не открывала. Тогда они вызвали тех, кто должен был выбивать дверь. Ольга открыла, они показали какую-то бумагу с подписью. Речь шла о том, что в этой квартире есть что-то противозаконное. Наверное, полдня они провозились, мы с женой всё это время тоже там были.*

В результате обыска из квартиры Ольги изъяли всю технику – ее и сына, а саму преподавательницу увезли. С тех пор она содержится под стражей. Ей предъявлено обвинение по ст.342 ч.1 УК РБ «Организация либо участие в групповых действиях, грубо нарушающих общественный порядок».

Сначала Ольга находилась в СИЗО КГБ, после ее перевели в СИЗО-1.

### Пишет, что вокруг нее танцуют все

Из рассказов журналистки TUT.BY **Катерины Борисевич** все узнали о том, как преподаватель БГУИР Ольга Филатченкова за решеткой с энтузиазмом обучает своих сокамерниц танцам народов мира.

– *Мы отвели ее во Дворец пионеров в танцевальный кружок в раннем детстве,* – рассказывает отец. – *Первый раз Оля дебютировала на сцене еще в пять лет. В лицее БГУ она танцевала полонез в паре с выпускником.*

*С тех пор в ее жизни было много выступлений, но продолжать хореографическое направление она не стала. Профессию выбрала другую, а танцы оставила для души. Сына Ваню тоже отвела на танцы в детстве, он стал солистом ансамбля «Дитя мира», прекрасно танцует. И дочку Олю тоже отдала на танцы.*

*Но сама она раньше никого не обучала. А теперь пишет, что вокруг нее танцуют все. И мы очень рады, что она таким образом спасается сама и помогает другим.*

Ольга окончила школу с золотой медалью и поступила в радиотехнический университет.

– *У нее все предметы хорошо в школе шли, но она отдавала предпочтение математике. А мы не вмешивались, профессию она выбирала сама. После учебы осталась работать на кафедре. За студентов Оля всегда и радовалась, и переживала, возможно, потому что и ее сын студент,* – рассказывают родители.

Внук Ваня, по их словам, был склонен к иностранным языкам, но сам выбрал БГУИР и «пошел по маминым стопам»:

– *Никакого особого отношения или давления к себе со стороны преподавателей после задержания матери он не чувствует, сейчас у него сессия.*

В письмах Ольга советует родителям, что посадить на даче.

– *А мы ей пишем, что высадили, как что зацвело. Благоустройство – это ее любимое занятие: клумбы, садовая и домашняя мебель.*

*Ольга любит столярничать, сама придумывала разные полочки, шуфлядки, лавочки, столы, шатры. В городском дворе повесила собственноручно сделанные скворечники. Доску брала на лесопилке и с удовольствием плотничала. Одно время даже занималась производством мебели для детских садиков. Она по дереву работает лучше, чем я. Если увлечется, остановить невозможно,* – рассказывает Алексей Филатченков о еще одном хобби дочери.

### Маленькой внучке про тюрьму сказать не смогли

Уже семь месяцев, как самым большим подарком в семье стали письма от Ольги. К сожалению, их получают не все.



– *До сих пор ей не передают письма от сына, и ее письма ему не доходят. Ваня очень переживает, приходит к нам постоянно, чтобы узнать что-то про маму. Также ей не разрешают переписку с некоторыми друзьями. Слава Богу, что нам доходят письма и что она наши хоть с задержкой, но получает. Пишет, чтобы мы не волновались и что в целом к тюремному быту она приспособилась, описывает подробно события своей жизни: прогулки, душ, танцы,* – делятся родители.

В марте политзаключенной разрешили свидание с матерью и сыном.

– *Мне было очень тяжело... Когда приходишь смотреть на ребенка, а он сидит за этими стеклами и решетками...* – не может сдержать слез Нина Филатченкова. – *Но на свидании она запретила плакать и себе, и мне. Я с удивлением и радостью отметила, что Ольга хорошо выглядит. Думаю, что она немного успокоилась. Когда начались все эти события, дочь очень переживала, была постоянно на нервах, вся вымотанная.*

*Я не знаю, как она справилась с этим состоянием, сказала, что настроила себя, что примет всё как должное. В общем, сейчас скорее она нас поддерживает.*

Самая тяжелая и больная тема в семье – дети. Старший Ваня переживает по-своему, больше в себе, очень страдает от того, что нет возможности общаться с мамой хотя бы в письмах.

– *До сих пор не представляем, как сказать маленькой внучке, где ее мама,* – снова сквозь слезы говорит бабушка. – *Про тюрьму сказать так и не смогли, и я не представляю, как скажу это ребенку. Дело в том, что она, хоть и маленькая, но слышала разговоры о том, как людей сажают, и как-то даже сказала, что очень боится, если и ее маму заберут в тюрьму.*

*Мы сказали, что мама уехала в командировку. Стала просить пообщаться хотя бы через интернет. Пришлось придумать: там, куда она уехала, нет интернета. Очень долго не могли успокоить девочку. Каждый день, особенно перед сном, начинались вопросы: а где мама, почему не возвращается?.. Однажды внучка спросила: «Бабушка, а может, мама умерла, а вы мне не говорите?».*

Ольга Филатченкова каждый день пишет письма своим детям. Самое любимое место во всех, которые доходят, – обещание, что они обязательно скоро увидятся.

*(«Салідарнасць»)*

РЭКОРДЫ

# Старшыня федэрацыі выступіць на Алімпіядзе

## *Для Івана Ціхана гэта будуць ужо шостыя Гульні.*

Днямі стала вядома, што беларускі кідальнік молата **Іван Ціхан** ва ўкраінскім Луцку перамог на этапе Кубка Украіны і такім чынам заваяваў алімпійскую ліцэнзію.

Гэтым самым Іван пабіў рэкорды многіх, бо алімпійскія спаборніцтвы ў Токіа, якія пройдуць з 23 ліпеня па 8 жніўня, стануць для спартсмена шостай Алімпіядай. Пры ўсім тым, што 24 ліпеня яму споўніцца 45 гадоў.

Адметна і тое, што зараз Іван Ціхан – дзеючы старшыня Беларускай федэрацыі лёгкай атлетыкі, таму выступленне на Алімпіядзе спартсмена, які адначасова з'яўляецца функцыянерам, яшчэ больш інтрыгуе.

Калі хто не ведае, то Ціхан з'яўляецца неадназовым прызёрам Гульняў. У 2014 годзе лёгкаатлет быў дыскваліфікаваны за станоўчую допінг-пробу 2005 года. Пасля Алімпіяды-2008 **Іван Ціхан** і **Вадзім Дзевятоўскі** таксама абвінавачваліся ў выкарыстанні допінгу, але выйгралі двухгадовую цяжбу з Міжнародным алімпійскім камітэтам, і ўзнагароды беларускім атлетам вярнулі.




Дарэчы, калі зараз Іван выканаў алімпійскі нарматыў, адным з першых яго павіншаваў менавіта Вадзім Дзевятоўскі, які да гэтага таксама быў кіраўніком Беларускай федэрацыі лёгкай атлетыкі.

*«Не сумняваўся, што Іван заваюе ліцэнзію на Алімпійскія гульні ў Токіа,* – адзначае Вадзім. – *Гэта яго шостая Алімпіяда! Такое спартыўнае даўгалецце можна растлумачыць максімальным прафесіяналізмам і адданасцю кідальнікам молата. А калі ведаць, праз што Іван прайшоў у спартыўным лёсе, то яго сённяшняе выступленне – проста фантастыка! У 45 гадоў кідаць молат туды, куды кідае Іван, нікому не ўдавалася, і не ўпэўнены, што ў будучыні гэта будзе каму-небудзь па сілах».*

Цікава, што ў мінулым годзе пасля прэзідэнцкіх выбараў Вадзім Дзевятоўскі напісаў на сваёй старонцы «Лукашэнка – не мой прэзідэнт», а вось Іван Ціхан падтрымаў апошняга.

*«Дзякуй табе, дарагі, у адрозненне ад іншых ты аказаўся патрыётам,* – заявіў затым Лукашэнка. – *Сустрэнемся – пагаворым. Дзякуй, Ваня, дзякуй!»*

У верасні мінулага года ў Мінску прайшла пазачарговая канферэнцыя Беларускай федэрацыі лёгкай атлетыкі, дзе замест Вадзіма Дзевятоўскага новым старшынёй быў абраны менавіта Іван Ціхан. Сёння ён штурмуе новыя вышыні...

**Алесь СІВЫ.**

*Фота: sputnik.by.*

КРЫЖАВАНКА

# Цёпламу чэрвеню і рыба рада

*27 чэрвеня – Сусветны дзень рыбалоўства*



**Па гарызанталі:** 1.«Смачная рыбачка ..., // Пацалуй, мой мілы, хоць раз» (прыпеўка). 4.«... як рыбалка: не клюе – змотвай вудачкі» (цытата невядомага аўтара). 6.Возера і ... – шчасце для рыбака (прык.). 9.Выбірай ... па лоўлі, а кручок па рыбе (прык.). 10. ... дубы – не дуброва, ... салдаты – не войска (прык.). 12.Беларуская багіня вясны. 13.Нагрэты стан паветра. 16.Шчыльныя, крытыя зверху вароты. 17.«Рыбалка – жыццё! Работа і сям'я – ...» (жарт). 19.На чужой старане і ... рыба (прык.). 20.«... – гэта спорт! Асабліва, калі патроны кончыліся, а кабан яшчэ жывы» (цытата невядомага аўтара). 23.«Пашлі мне, ..., такую рыбу, каб хоць раз не трэба было брахаць» (жарт). 24.«У наш час ... – гэта чалавек, які сядзіць на беразе і варыць юшку з марской рыбы» (жарт). 25.Была б ... – клюне (прык.).

**Па вертыкалі:** 2. ... без гарэлкі, што вяселле без музыкі (прык.). 3.На ваўка слава, а авечак цягае ... (прык.). 4.Невялікая адтуліна. 5.Лічбавая ацэнка поспехаў. 7.На бязрыб'і і ... – сом (прык.). 8.Рыба і ... завядуць у старцы (прык.). 11. ... пры зямлі, а рыбак – пры вадзе (прык). 14.Развітальны вечар, бяседа (разм.). 15.«Язі паважныя і ..., // Як тыя зебры – акуні» – з верша П.Броўкі «На рыбалцы». 18.Выходзячы з дому, вопытны рыбак перш за ўсё глядзіць на ... (прык.). 21.Вершаваная двухскладовая стапа. 22.Орган размнажэння ў грыбоў.

### Адказы на крыжаванку

**Па гарызанталі:** 1.Карась. 4.Любоў. 6.Рака. 9.Вудзільна. 10.Два. 12.Ляля. 13.Цяпло. 16.Брама. 17.Хобі. 19.Рак. 20.Паляванне. 23.Божа. 24.Рыбак. 25.Нажыва.

**Па вертыкалі:** 2.Рыбалка. 3.Сава. 4.Лаз. 5.Бал. 7.Апалонік. 8.Зайцы. 11.Хлебароб. 14.Провады. 15.Карпы. 18.Неба. 21.Ямб. 2.Аск.

**Лявон ЦЕЛЕШ.**

**г.Дзяржынск.**

СТОП-КРАН

# Сцяпан ПАПОЎ: «Сумны час для спорту...»

*Вядомы беларускі самбіст распавёў, чаму ён мае намер зрабіць перапынак у кар'еры.*



**Сцяпан Папоў** – чэмпіён свету і Еўропы, пераможца І Еўрапейскіх гульняў.

Пра яго джэнтльменскі ўчынак у фінале Еўрапейскіх гульняў у Баку пісалі многія. Тады беларускім самбіст перамог балявым прыёмам чэмпіёна свету **Аміля Гасімава**, а затым вынес яго пад авацыі публікі ў распранальню, бо азербайджанскі спартсмен сам не мог ісці.

Пасля выбараў мінулага года Сцяпан Папоў падпісаў зварот спартсменаў супраць гвалту і з патрабаваннем новых, свабодных, выбараў, а затым неадназова публічна выказваў сваю грамадзянскую пазіцыю.

*«Увесь гэты час я стараўся трэніравацца кожны дзень,* – паведаміў зараз спартсмен. – *Гэта мне давала сілы і забірала адмоўныя эмоцыі. Але пасля арышту Косці* (трэнер Канстанцін Якаўлеў. – **Аўт.**) *я яшчэ не правёў ніводнай трэніроўкі. Шкіруе тое, за што чалавеку далі 15 сутак...*

*Сумны час для спорту. Салідарнасць, яднанне і заклік да спорту – злачынства. З краіны з'язджаюць таленавітыя трэнеры і спартсмены. Спаборніцтвы для чыноўнікаў, а не для балельшчыкаў. І часам наведваюць думкі, што трэба абраць больш лёгкі шлях, завязаць са спортам і заняцца іншай справай, якая дазволіць зарабляць грошы на жыццё. Бо ў нашай краіне, на жаль, спорт – гэта больш хобі, чым стабільны заробак.*

*Але свой характар мне не падмануць. Я люблю сваю справу, люблю спорт, люблю барацьбу....*

*Цяпер мне патрэбны проста невялікі адпачынак, перапынак. Пісаць і заклікаць да сумлення сваіх калег ужо не мае сэнсу. Кожны паказаў, хто ёсць хто. І ўсе ўсё разумеюць. Я зрабіў усё, што было ў маіх сілах. І, хаця страціў многае, мне лёгка і спакойна на душы. А гэта галоўнае. Сумленне не падманеш.*

*Якім далей будзе мой шлях – вядома толькі Богу. Але я хачу быць у спорце, застацца ў сваёй краіне і змагацца за свабоду і справядлівасць...»*

**Сяргей ЗАБЛОЦКІ.**

ЕЎРА-2020

# Не ўсё тое золата, што бліШчыць...

*На чэмпіянаце Еўропы па футболе пачынаюцца матчы плэй-оф.*




23 чэрвеня закончыліся гульні групавога этапу, далей – барацьба толькі на выжыванне.

У кожнага беларускага балельшчыка свае куміры. Нехта падтрымлівае зборную Германіі, хтосьці перажывае за галандцаў, камусьці падабаюцца каманды Украіны ці Расіі. Праўда, расіяне занялі ў сваёй групе апошняе месца, таму для іх свята ўжо скончылася.

Хаця калі казаць пра расійскую каманду, то зараз болельшчыкі абмяркоўваюць не іх «анякую» гульню, а тое, колькі зарабляе галоўны трэнер зборнай **Станіслаў Чарчэсаў.**

Аказваецца, настаўнік расійскай зборнай – адзін з самых высокааплатных трэнераў у Еўропе. Паводле інфармацыі з адкрытых крыніц, яго гадавы заробак складае ні многа ні мала 2,5 мільёна еўра! Пры ўсім тым, што каманда заняла ў групе апошняе месца!

Заробак Чарчэсава амаль у два разы большы, чым у **Раберта Марцінеса** – галоўнага трэнера зборнай Бельгіі, якая заняла ў сваёй групе першае месца. І палічыце, у колькі разоў ён перавышае заробак галоўнага трэнера зборнай Фінляндыі **Марку Канервы**, які мае сціплыя 180 тысяч еўра ў год. Хаця фіны абышлі расіян у групавой турнірнай табліцы.

Дарэчы, такую высокую зарплату тлумачылі так: маўляў, вялікая рызыка таго, што пасля правальнага выступлення спецыяліст на працяглы час можа застацца без працы, таму яму трэба стварыць «падушку бяспекі».

Зрэшты, і тыя ж фіны, і датчане паказалі на чэмпіянаце: не ўсё тое золата, што бліШчыць, і грошы – не самае галоўнае ў гульні. Ёсць яшчэ сапраўдны патрыятызм, пісьменныя трэнеры і таленавітыя ігракі. І чэмпіянат Еўропы гэта пацвярджае. А самыя цікавыя матчы ў нас яшчэ наперадзе. Усё толькі пачынаецца...

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

**P.S.** *У 1/8 фіналу згуляюць:* ***26 чэрвеня*** *Уэльс–Данія, Італія–Аўстрыя;* ***27 чэрвеня*** *Нідэрланды–Чэхія, Бельгія–Партугалія;* ***28 чэрвеня*** *Іспанія–Харватыя, Францыя–Швейцарыя;* ***29 чэрвеня*** *Англія–Германія, Швецыя–Украіна.*

УСМІХНІЦЕСЯ...

# Смяшынкі з Лявонавай скрынкі

Парада ад цёткі Мані: калі не дазваляць мужу піць піва з мужыкамі, то ён пачне піць шампанскае з жанчынамі.



Мужы жывуць, як у казцы: жонка – ведзьма, цешча – Баба-яга, дзеці – чэрці. І толькі суседка – Васіліса Прыгожая, і муж у яе – Іван-дурань.



– Сёма, хопіць зазіраць у халадзільнік. Там лямпачка наматала ўжо больш, чым ты зарабляеш.



Таксіст падвозіць вядомага мільянера. Той разлічваецца роўна па лічыльніку. Таксіст здзіўляецца:

– Я ўчора падвозіў вашага сына, дык ён даў мне на чай 100 долараў.

– Што вы хочаце: у яго бацька – мільянер, а я – сірата.



Жыццё – гэта рух: адны шавеляць звілінамі, другія хлопаюць вушамі.

**Сабраў Лявон ЦЕЛЕШ, г.Дзяржынск.**

БУДЬТЕ ЗДОРОВЫ!

# 10 продуктов, выводящих жидкость из организма

### 1. Напитки с кофеином

Чай и кофе – прекрасные натуральные диуретики, поэтому утолять жажду стоит именно ими. Но не следует злоупотреблять кофеиносодержащими напитками. Оптимальная норма – 250 мл кофе либо 5 чашек чая в сутки. Более 300 мг кофеина в день отразятся на качестве сна и здоровье сердечно-сосудистой системы.

### 2. Лимон

И сам фрукт, и его сок должны стать неотъемлемой частью питания, если вы хотите вывести лишнюю жидкость из организма. Лимон можно добавлять в самые разные блюда от салатов до запеканок, а можно просто добавить немного сока в стакан с водой. Лимонная вода очень полезна еще и потому, что восстанавливает оптимальный pH организма.

### 3. Имбирь

Корень имбиря поможет быстро справиться с задержкой жидкости благодаря отменному мочегонному эффекту. Именно поэтому он является важной частью многих очистительных программ. Чтобы испытать полную силу мочегонного эффекта имбиря, используйте свежий корень. Конечно, порошок тоже помогает, но гораздо приятнее пить напитки именно со свежим имбирем.

### 4. Клюквенный сок

В народной медицине это средство используется для борьбы с инфекциями мочевыводящих путей, а также как натуральное мочегонное. Клюквенный сок поможет вывести не только лишнюю жидкость, но и токсины.

### 5. Овсянка

Большинство природных диуретиков – это напитки или фрукты и овощи с высоким содержанием воды. Овес же даже в сухом виде поможет вам справиться с проблемой задержки жидкости. Приготовьте на завтрак овсянку на воде без масла и сахара. Зато можете добавить в нее йогурт, мед и свежие фрукты.

### 6. Баклажан

Еще один овощ с мочегонным эффектом можно приготовить самыми разными способами. Некоторые даже пьют воду, в которой он варился. Замените баклажаном жирное мясо в своих любимых рецептах и наслаждайтесь диетической версией любимого блюда; также можете есть баклажаны отдельно. Кстати, «синенькие» чудесно дополняют салаты.



### 7. Сельдерей

Этот овощ с большим содержанием воды отлично действует как мочегонное средство. Можно употреблять в пищу стебли, а можно сделать из всего овоща сок, который станет мощным лечебным средством. Оно поможет вывести воду из организма и улучшит состояние почек.

### 8. Яблочный уксус

Натуральный яблочный уксус обладает замечательными мочегонными свойствами, его можно использовать в приготовлении блюд или же просто добавлять несколько капель в стакан с водой. Кроме того, он еще и улучшает пищеварение. Для быстрого эффекта добавьте пару чайных ложек и немного лимонного сока в стакан воды.

### 9. Арбуз

Все знают о мочегонных свойствах этой ягоды. Дополнительная польза арбуза заключается в антиоксидантном эффекте. Однако не ешьте его слишком много, иначе столкнетесь с повышением уровня сахара в крови, что через несколько часов вызовет усиление аппетита.

### 10. Петрушка

Эта богатая антиоксидантами зелень также обладает мощным мочегонным эффектом. Ее можно добавлять с салаты и другие блюда. К тому же, если вы едите ее в сыром виде, она поможет освежить дыхание.

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 326-68-71
Рэкламны аддзел (017) 363-66-04
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.
Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ